*За надпіс на плоце — год зняволення (стар. 2)*
*Абітурыент-97, будзь гатоў! (стар. 2)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 36.610
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 28 траўня 1997 | № 56 | Кошт свабодны

# Дзеці ў бядзе

*А беларускія ўлады працягваюць блакіраваць гуманітарную дапамогу, якая прыбывае для ахвяраў чарнобыльскай катастрофы.*

Па гэтай прычыне дыпламаты не рэкамендуюць дабрачынным арганізацыям сваіх краін накіроўваць грузы ў Беларусь. Італьянская экалагічная арганізаыя *Legambiente Piemonte* вырашыла, аднак, прайсці «ўсе кругі пекла». 13 траўня ў трэці раз у Гомель прыбыў «Караван салідарнасці Энрыка Ламберці». На трох грузавіках італьянцы даставілі гуманітарную дапамогу, якую 6 месяцаў збіралі жыхары горада Турын і ягонай правінцыі пры ўдзеле міністэрства замежных справаў Італіі. Аперацыйная зала, стаматалагічны кабінет, медыкаменты, дзіцячае харчаванне, адзенне, харчовыя пакеты і канцтавары прызначаліся ў першую чаргу для абласной бальніцы і анкалагічнага дыспансера ў Гомелі. Частка грузу адрасавалася медыцынскім установам Брагіна, Веткі, Чачэрска, Буда-Кашалёва, Камарына і Нароўлі, дзіцячага дома-інтэрната ў Дуянаўцы, анкалагічнага цэнтра ў Мінску, а таксама для асацыяцыі «Дзеці ў бядзе».

Каб перадаць гуманітарную дапамогу «з рук у рукі», у Беларусь прыехалі 33 італьянцы-валанцёры, якія скарысталі для гэтага ўласны адпачынак. Аднак у Гомелі грузавікі затрымалі мытныя службы і загадалі скласці спісы, у якіх патрэбна было ўказаць найменне кожнага тавару, ягоны тып, колькасць ва ўпакоўцы, вагу, кошт і месца прызначэння і г.д.. Зрабіць гэта складана, бо тавар спакаваны. Як сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ прадстаўнік *Legambiente Piemonte* Масіма Банфаці, *«каб растаможыць груз, цяпер патрэбна прайсці тры інстанцыі: мытны камітэт, дзяржсакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана і прэзідэнта Лукашэнку»*. Пакуль начальнікі вывучаюць спісы, за кожныя суткі неабходна плаціць у беларускую казну 2—3 долары за тону (усяго 70 тон груза). Дагавор з італьянскай кампаніяй, якая прадаставіла грузавікі, прадугледжвае толькі 5 дзён прастою. За астатні час неабходна выплачваць дадатковыя грошы (адзін дзень прастою каштуе для жыхароў Турына 1.500 долараў).

Праз тыдзень (22 траўня) італьянцы мусілі выгрузіць прывезеную дапамогу ў школьнай спортзале і іншых непрыстасаваных памяшканнях, а самі паехалі ў Мінск, каб перадаць у адміністрацыю прэзідэнта пісьмо пра *«тупасць бюракратыі, абразу чалавечай годнасці дабрачыннікаў»*. Ці захочуць яны пасля гэтага везці дапамогу ў Беларусь? Але ў дадзеным выпадку сеньёры вырашылі стаяць да канца і працягваюць атакаваць «гумавую сцяну», збудаваную беларускімі ўладамі на шляху гуманітарнай дапамогі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



# 200 долараў – і ні цэнта больш

**Нацыянальны банк разаслаў тэлеграму, у якой абмяжоўвае продаж замежнай валюты ў абменных пунктах банкаў сумай у 200 долараў.**

Гэта азначае, што адна і тая ж асоба ў адным абменным пункце на працягу дня можа купіць не больш за 200 амерыканскіх долараў (або іншай валюты ў эквіваленце). Такой адміністратыўнай мерай галоўны банк краіны спрабуе вырашыць праблему з набыццём наяўнай замежнай валюты, купіць якую афіцыйным чынам людзі практычна не могуць. Аднак чакаць вялікага эфекту ад гэтага кроку Нацбанка не даводзіцца: па-першае, абменныя пункты ўсё роўна заблакаваныя валютчыкамі, якія могуць дзяжурыць па чарзе, скупляючы ўсе долары, а па-другое — здаваць наяўную валюту ў банкі становіцца ўсё больш нявыгадна, бо курс долара на чорным рынку на 1,5-2 тысячы рублёў вышэйшы.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Хоць бы на ежу хапіла

**Толькі 2% жыхароў Мінска могуць поўнасцю задаволіць свае патрэбы.**

Падчас даследавання, праведзенага незалежнай сацыялагічнай службай «Ольхон», мінчанам было прапанавана ахарактарызаваць сваё матэрыяльнага становішча. Вынікі паказалі, што 48% рэспандэнтаў заробленых грошай хапае *«толькі на ежу і неабходнае адзенне»*. Больш як адна трэцяя апытаных (36%) адзначыла, што грошай хапае толькі *«на самыя танныя прадукты харчавання»*. 14% мінчан грошай хапае на добрую ежу і адзенне, аднак купіць дарагія рэчы доўгага карыстання яны не могуць. І толькі 2% рэспандэнтаў грошай хапае на ўсё.

Характарызуючы сацыяльную абстаноўку ў краіне, больш як трэцяя частка рэспандэнтаў (35%) назвала яе напружанай; 39% — насцярожваючай. Толькі 14% апытаных лічаць сацыяльную абстаноўку ў краіне спакойнай. Астатнія не змаглі адказаць на прапанаванае пытанне.

*БелаПАН*

# Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прыслала эксперта

**Сёння ў Мінск прыязджае спецыяльны дакладчык ААН па правах чалавека Абід Хусейн. Ягоны візіт працягнецца да 1 чэрвеня.**

Як паведамілі ў прадстаўніцтве ААН у Рэспубліцы Беларусь, мэта візіту сп.Хусейна — вывучэнне сітуацыі ў сферы правоў чалавека, у прыватнасці — палітыкі ўрада ў галіне права на свабоду перакананняў і свабоду выказвання ў кантэксце артыкула 19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкула 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

У праграме візіту мяркуецца сустрэча з намеснікам міністра замежных справаў Нінай Мазай, старшынёй Дзяржкамітэта па друку Уладзімірам Замяталіным, намеснікам міністра ўнутраных справаў Юрыем Тарабрыным, старшынёй Дзяржтэлерадыёкампаніі і галоўнымі рэдактарамі дзяржаўных газет. Абід Хусэйн правядзе шэраг сустрэчаў з няўрадавымі арганізацыямі, дэпутатамі Вярхоўнага Савета, рэдактарамі незалежных газет. Пагутарыць са спецыяльным дакладчыкам ААН па правах чалавека згадзіліся Генадзь Карпенка, Сямён Шарэцкі, Валерый Ціхіня і Міхаіл Пастухоў. Абід Хусейн пабывае ў Беларускім ПЭН-цэнтры і Беларускім Хельсінкскім камітэце.

Абід Хусейн выконвае функцыі спецыяльнага дакладчыка ААН з 1994 года. У ягоныя абавязкі ўваходзіць збор і абагульненне інфармацыі аб парушэннях правоў чалавека, вывучэнне фактараў, што перашкаджаюць рэалізацыі права на свабоду перакананняў і на іх свабоднае выказванне ў пэўных краінах. Перад візітам у Беларусь сп. Хусейн працаваў у шэрагу краін свету, у тым ліку ў Малаві (Цэнтральная Афрыка), Рэспубліцы Карэя, Ісламскай Рэспубліцы Іран, Турцыі. Справаздачу аб выніках візіту ў Беларусь Абід Хусейн прадставіць у Камісію ААН па правах чалавека, што знаходзіцца ў Жэневе.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Кансультацыі пачынаюцца

**Учора ў Мінск прыбылі назіральнікі з еўрапейскіх арганізацый.**

Заўтра, 29 траўня, у мінскім гатэлі «Беларусь» адбудзецца першае паседжанне змешанай рабочай групы, у якую ўваходзяць прадстаўнікі разагнанага Вярхоўнага Савета, адміністрацыі прэзідэнта і Еўрапейскага Саюза.

**А.Д.**

# У партыі Расія – NATO Беларусь была пешкай

**На фоне падпісання ў Парыжы дамовы паміж *NATO* і Расіяй беларускае кіраўніцтва са здзіўленнем для сябе мусіць адзначыць: Масква выкарыстала Беларусь у сваіх інтарэсах.**

А стараўся беларускі прэзідэнт на працягу ўсяго часу, пакуль ішоў гандаль паміж Бруселем і Масквой, задужа. Антынатаўская рыторыка пра «монстра *NATO*», які набліжаецца да межаў сінявокай Беларусі, падмацоўвалася пагрозлівымі дзеяннямі па спыненні супрацоўніцтва з *NATO* ў межах праграмы «Партнёрства дзеля міру». Віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, каментуючы дзеянні Мінска, нагадаў кітайскую прымаўку, якая трапна абмалёўвае схему паводзінаў Беларусі: *«Навошта самому брахаць, калі ёсць сабака»*. Нядаўняе пасланне Барыса Ельцына беларускаму лідэру, а таксама заява прэс-сакратара расійскага прэзідэнта пра тое, што Крэмль бярэ на сябе функцыі абароны беларускіх інтарэсаў на перамовах з *NATO*, зафіксавалі выпіхванне Беларусі па-за межы абмеркавання галоўнага пытання агульнаеўрапейскай бяспекі.

Правальнасць беларускага знешнепалітычнага курсу становіцца відавочнай на фоне гатоўнасці *NATO* заключыць асобную дамову з Кіевам, пашырыўшы формулу 16+1 да межаў формулы 16+2 (Расія і Украіна).

Пачуццё пакрыўджанасці стала асноўным рухавіком у спробах афіцыйнага Мінска распачаць дыялог з Бруселем. Спробным шарам была састарэлая беларуская ідэя стварэння без'ядзернай прасторы ў рэгіёне Усходняй Еўропы, але жорсткі адказ са штаб-кватэры *NATO* засведчыў падкрэсленую абыякавасць Бруселя да беларускіх ініцыятываў. Заява ж міністра замежных справаў Беларусі Івана Антановіча пра неабходнасць заключэння асобнай дамовы Мінска і Бруселя блакуецца Крамлём. Такім чынам, Беларусь стала заложніцай уласнай палітыкі.

Аднак жаданне Беларусі прабіцца да *NATO*ўскай кішэні аказалася настолькі моцным, што Мінск вырашыў дзейнічаць абходнымі шляхамі. Некалькі тыдняў таму ў Брусель была накіравана праграма супрацоўніцтва Беларусі і *NATO* ў рамках «Партнёрства дзеля міру», а ў Партугалію на саміт міністраў замежных справаў краінаў, якія не ўваходзяць у *NATO*, едзе Іван Антановіч. Аналітыкі лічаць, што Антановіч наўрад ці зможа пераканаць заходніх калегаў у тым, што Беларусь памяняла знешнепалітычныя прыярытэты.

Аляксандр Лукашэнка спрабуе прабіць *NATO*ўскую сценку праз Украіну. Па нашых звестках, у мінулы панядзелак падчас тэлефоннай размовы з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам беларускі лідэр прасіў падтрымкі Украіны ў распачынанні дыялогу з *NATO*. 27 траўня прэзідэнт Украіны прыехаў у Талін, дзе разам з кіраўнікамі балтыйскіх краінаў і Польшчы мусіць быць абмеркаваная і беларуская сітуацыя. Але, на думку назіральнікаў, выглядае на тое, што калі сам афіцыйны Мінск не зможа сабе дапамагчы, то ніхто даць рады Беларусі будзе не ў стане.

**Яцэк ГАРБУЗОВІЧ**

# 1 чэрвеня – Дзень абароны дзяцей

**Мінскі гарвыканкам адмовіў Беларускай арганізацыі працоўных жанчын у правядзенні мітынгу-свята, прысвечанага сусветнаму Дню абароны дзяцей, які адзначаецца 1 чэрвеня.**

Намеснік мэра Мінска камуніст Віктар Чыкін забараніў гэтую акцыю, спаслаўшыся на тое, што беспрацоўныя жанчыны, якія падавалі заяўку, не ўказалі... сваё месца працы. Акрамя таго, Чыкіну не спадабалася, што арганізацыя працоўных жанчын не адзначыла ў заяве, як яна будзе ахоўваць грамадскі парадак падчас свята. Між тым ні пра якія надзвычайныя акцыі ў заяўцы гаворка не ішла. Жанчыны вырашылі сабрацца 1 чэрвеня ў 15 гадзін на плошчы Якуба Коласа і нагадаць уладам аб правах дзяцей, якія нярэдка галадаюць. Непакоіць жанчын таксама прымусовае размеркаванне студэнтаў у чарнобыльскую зону і небяспека ўдзелу беларускіх хлопцаў у ваенных канфліктах на тэрыторыі Расіі. Але свята ёсць свята, і арганізаткі задумалі для дзяцей канцэрт і падарункі — кнігі «Казкі дзяцей Беларусі».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Как лихой парень пытался соблазнить капризную девочку

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



Накануне подписания союзного устава уязвленный Лукашенко назвал Россию «капризной девочкой». «Капризная девочка Россия», пококетничав с лихим шкловским парнем, устами Ельцина сладко поцеловала его, сказала ласковые слова о «братстве» и «чувстве единства» — но от более интимных контактов отказалась.

Правда, на капризное поведение России Лукашенко отреагировал соответственно и тоже проявил себя изрядным ветреником: он настолько активно участвовал во «всенародном обсуждении» проекта устава союза, что за короткий период несколько раз успел поменять свою позицию — от гарантий белорусского суверенитета он перешел к готовности объединиться в одно государство и обратно. С предельной откровенностью Лукашенко высказался о том, почему он вновь стал «гарантом суверенитета», в интервью перед отлетом в Москву. *«Должен сказать,* — заявил Лукашенко, — *что* ***пока*** *ни Беларусь, ни Россия не готовы говорить об объединенном государстве».* Но почему же — еще недавно были готовы, а теперь вдруг снова нет? *«Разве Россия пойдет сегодня на новые президентские и парламентские выборы? Не пойдет».* Отсюда вывод — раз главного объединителя не пускают в большую российскую политику, то **пока** никакого объединения и не будет (а вот когда будут готовы пустить — тогда и объединимся): *«И нечего обманывать народы и говорить о том, что Лукашенко играет на поле интеграции. Я не играю и определенно об этом говорю».* Налицо прочная логическая цепочка. Если дадите главному белорусскому олимпийцу поиграть на политическом поле России — он поиграет с вами и на поле интеграции.

На сегодняшний же день подписание союзного договора вкупе с принятием устава имеет все черты легкого флирта, но никак не соития «капризной девочки» с усатым парнем. Кроме повода для пересудов, никакого плода этот акт не принесет. Как констатировал в «Известиях» О.Лацис, *«Устав не слишком продвинет дело экономической интеграции двух стран, но можно утешаться тем, что Россия не допустила опасных политических ошибок».* Иными словами, подписанные документы дают основания для громогласного популистского трепа — и содержат минимум (если не нуль) конкретики.

Этот самый треп в белорусской официозной прессе начался, естественно, сразу же. Например, высокопоставленный российской «красный» Аман Тулеев, чья громадная косноязычная публикация появилась в «Народной газете» в рамках «всенародного обсуждения», долго делился с белорусскими телезрителями радостью, причем особый упор сделал на экономических выгодах России от союза с Беларусью, сравнил Беларусь с «окном в Европу», которое прорубал Петр I, и подробно расписал преимущества интеграции для своей страны: вопросы обороны, военно-промышленный комплекс, газопровод, транзит. На вопрос же об экономических выгодах для Беларуси Тулеев сказал что-то невнятное о *«единстве славянских народов».*

В чем-то Тулеев, безусловно, прав. Объединение с Беларусью в одно государство влетело бы России в копеечку, но вот выгоды для нее от «интеграции» в теперешнем виде с номинально независимой Беларусью очевидны, о них (как, соответственно, и об убытках для Беларуси) куда подробнее и предметнее, чем Тулеев, писали белорусские экономисты. В противовес им, официозные СМИ попытались обмолвиться об экономических преимуществах союза для Беларуси — по БТ, скажем, о них говорили и директора, и рабочие. Лейтмотив этого: *«вот мы подписали союзный договор с Россией — и теперь нашим заводам пойдут заказы».*

Искусственных преград между экономиками России и Беларуси не существовало и до подписания договора. И наивно надеяться на то, что договор что-то изменит в экономических отношениях. Если продукция белорусских предприятий не востребовалась, если она никому в России не нужна была прежде, то никакие уставы-договоры не сделают ее нужной и впредь. Может быть, теперь российское правительство заставит своих граждан покупать ненужную им продукцию? Чубайс с Немцовым только и мечтают о том, как бы им заказать в Беларуси что-нибудь этакое? Пора понять, что российская экономика, несмотря на всю ее вывернутость, все-таки является рыночной (в отличие от белорусской) — так что никаких заказов по команде там никто белорусским предприятиям давать не будет.

Впрочем, сам Лукашенко признал, что *«нет конкретных результатов интеграции, которые бы значительно улучшили жизнь людей».* Поэтому в основном, как и до подписания, придворные СМИ предпочли восхвалять союз не рациональными аргументами, а набившими оскомину воспоминаниями о *«едином государстве в недалеком прошлом»* и фразами о *«братском единстве славянских народов».*

Если говорить об «этнокультурной общности» русских и белорусов, то таковая не служит основанием для объединения в одно государство. В Европе-то, во всяком случае, родственные этносы предпочитают жить в отдельных государствах. Македонский язык отличается от болгарского меньше, чем белорусский от русского, — но в Македонии не ставится вопрос об объединении с Болгарией. В Молдавии вопрос ставится, но все же она тоже что-то не торопится объединяться с Румынией. Чехия и Словакия не пытаются «интегрироваться» друг с другом. Австрия не присоединяется к Германии. Если следовать логике наших горе-интеграторов, Бельгию вообще, во имя «братского единства народов», надо разодрать между Голландией и Францией, а Швейцарию — между Францией, Германией и Италией. Да и не только в Европе — полмира говорит по-английски, и многие страны даже формально входят в Британский Союз, но это не значит, что на практике в своей политике они ориентируются на Лондон. Испаноязычная Латинская Америка тоже не «интегрируется» с Мадридом. Существует десяток арабских государств, которые отнюдь не склонны жертвовать ни суверенитетом, ни экономическими интересами ради кровного родства и религиозной общности. То есть «этнокультурная общность», которая постоянно, за неимением иных доводов, муссируется официозной прессой — явно несостоятельный аргумент в пользу «интеграции».

Американские школьники изучают английскую литературу, но из этого не делается вывод о том, что США должны присоединиться к бывшей метрополии. Кто мешает белорусам ощущать культурную общность хоть с русскими, хоть с поляками, хоть с кем угодно? При чем же здесь единое государство? И то сказать — бывает, человек готов вцепиться в глотку ближним своим, но при том норовит записать в «братья» весь соседний народ. Все же лучше проявлять свои добрые чувства к конкретным людям, которые находятся рядом, чем к такой абстрактной категории, как народ.

А о «страстях по Советскому Союзу» и говорить нечего. Многие страны, которые ныне являются суверенными, находились в различные исторические промежутки времени в составе других государств. Что это меняет на сегодняшний день? Кто-нибудь в здравом уме предлагает возродить Австро-Венгерскую или Британскую империю? У нас же подобные предложения почему-то пользуются спросом. Хотя советская империя отличалась от Британской главным образом тем, что над последней никогда не заходило солнце, а над Советским Союзом солнце, говоря фигурально, никогда не восходило.

Кроме того, если прикинуть, какие люди и силы в обеих странах делают основной и оборотный политический капитал на популизме вокруг интеграции, союза, объединения и прочих совокуплений, то в расхожем штампе «братское единство народов» впору заменять эпитет на другой, созвучный и начинающийся на ту же букву.

Пока кремлевские власть предержащие тверды в своем решении не допустить выхода Лукашенко на политическую сцену своей страны, никакой союз формальной государственности Беларуси не угрожает. Однако вряд ли наш диктатор откажется от мечты пусть со временем, хотя бы когда-нибудь, но овладеть «капризной девочкой Россией». Поэтому уместно напутствовать его словами, часто встречающимися в сказках народа, которым он так стремится править: *«Не за свой кус ты принимаешься — ты этим куском подавишься».*

# Если верить статистике и измерять в яйцах...

## ...то окажется, что наша жизнь за последнее время значительно улучшилась.

**Константин СКУРАТОВИЧ**



В самом деле, если в январе—марте нынешнего года покупательная способность среднемесячного душевого денежного дохода жителя Беларуси позволяла приобрести единовременно 719 яиц, то год назад — на 23 штуки меньше. Хлеба пшеничного 1 сорта можно теперь купить на 21 кг больше, чем год назад, картофеля — почти в два раза (497 кг), а водки — на 6 литров, или два полновесных ведра.

И это при том, что размер реальной зарплаты по сравнению с прошлогодним возрос всего на 6,2%, пенсии, напротив, снизился на 3,3%, а продукты с начала года подорожали: овощи — в 2,1 раза, маргарин — в 1,5 раза, сахар — на 47,5%, мука, масло животное, фрукты — на 38—41%, хлеб и хлебобулочные изделия, макароны, рыба, безалкогольные напитки — на 31—35%, колбасные изделия, крупа, кондитерские изделия, мясные консервы — на 26—29%, молочные продукты, яйца, рыбные консервы, майонез, алкогольные напитки — на 21—24%.

Средний размер пенсий в апреле составлял всего 718,4 тыс. рублей, что равнялось 41% от средней начисленной заработной платы и 54% от минимального потребительского бюджета. Поэтому показатели покупательной способности пенсионеров не менее чем в два раза ниже, нежели у остального населения. К слову сказать, в первом квартале прошлого года пенсия достигала 44-47% средней зарплаты, а пенсионеры имели гораздо больше льгот, чем теперь.

Впрочем, положение основной массы работающего населения незначительно лучше, чем у пенсионеров. А у тех, кому задерживают выплату заработной платы, несравненно хуже. Похоже, что неплатежи заработной платы становятся все большей проблемой для белорусской экономики. По состоянию на 25 октября прошлого года сумма просроченной задолженности по зарплате составляла 237,1 млрд. рублей, а в конце нынешнего апреля — 439,7 млрд. рублей, что равнялось 9,2% от общего фонда заработной платы. При этом более 16% задолженности приходилось на два первых месяца года. Таким образом, месячная задержка выплаты стала явлением заурядным; но каково тем, кто не получает заработка за два и более месяца.

К числу таких страдальцев безусловно относятся колхозники. Мало того, что начисленная зарплата в колхозах (741,2 тыс. рублей) практически равнялась средней пенсии, но на их долю, вместе с совхозами, пришлось около 60% общей задолженности по зарплате. Как такового голода в деревне, конечно, нет. Но уже привычными стали мужики, собирающие окурки на остановках электричек, типичной стала и торговля хлебом в сельпо под долговые расписки и многое другое.

Что говорить, в деревне прожить можно (жили ведь и при немцах), но ведь нынешний деревенский житель — земледелец только отчасти. Его карликовое хозяйство позволяет не умереть с голоду, но не позволяет получить сколь-нибудь значительный денежный доход. В том числе и для ведения этого самого хозяйства. Ведь колхознику полностью за свой счет приходится обихаживать дом, хозяйственные постройки, приобретать инвентарь, скотину и многое другое. Весной, в частности, сельчане в массовом порядке покупают поросят. Но как это сделать, если парочка этих животных стоит под два миллиона?

Вот и получается, что под победные реляции жизнь в деревне возвращается в прежние годы — на картошку и молоко. А многие ведь и коров не держат: кто по старости, кто от общей неустроенности и рухнувшего привычного быта. В деревне уже появились и натуральные люмпены, для которых и собственный огород в тягость.

В этом году, кстати, вполне определенной стала и очень тревожная тенденция сокращения объемов продаж на рынках крупнейших городов. Мяса и птицы, например, в январе—апреле здесь продано на 11% меньше прошлогоднего, масла животного — на 32%. И, как думается, главная причина в том, что нечего везти на рынок, нечего продать.

Основная масса горожан тоже живет трудно, и тоже вопреки статистикам. Последние, например, утверждают, что реализация непродовольственных товаров официально учтенными предприятиями за 4 месяца текущего года, по сравнению с аналогичным периодом прошлого года, возросла на 55%. Продажа трикотажных изделий, одежды и белья, чулочно-носочных изделий, холодильников и морозильников увеличилась на 69—86%, обуви и стиральных машин — в 2 раза, а телевизоров, шелковых и льняных тканей — в 3 раза.



И это при том, что с начала года цветной телевизор стал стоить дороже более чем на 1/4, холодильник — почти на 1/2, а велосипед — на 70%. Как при сокращающихся доходах люди умудряются столь резво «отовариваться» — это еще одна тайна белорусской статистики. Если же судить по собственному кошельку, то поломка телевизора — это почти трагедия, а приобретение нового — задача, требующая многомесячного потребительского воздержания.

Кстати, впервые за последние несколько лет киоски и уличные торговки в Минске стали вновь торговать сигаретами поштучно: для многих клиентов разовое приобретение целой пачки — разорительно. Поэтому и уровень нашей жизни можно измерять, помимо яиц, и сигаретами, и прочими вещами. Но при этом верить и статистике и чувствовать, что жить становится легче, жить становится веселее.

## Паэтычныя сустрэчы каля помніка Купалу

**Заўтра, 29 траўня, а 18-й гадзіне ў сталічным скверы Я.Купалы каля помніка класіку пачынаюцца рэгулярныя паэтычныя чытанні з удзелам вядомых і маладых беларускіх паэтаў і бардаў.**

Акцыя будзе праводзіцца кожныя панядзелак і чацвер пад дэвізам «Хай слова гаворыць само за сябе» — яна закліканая даць магчымасць рэгулярна збірацца разам тым, хто любіць Беларусь і яе мову, падняць аўтарытэт беларускай культуры.

Мінгарвыканкам задаволіў заяўку арганізатараў, якую ад імя БСДП (Народная Грамада), ТБМ, аб'яднання маладых паэтаў «Першацвет» і Маладой Грамады падпісалі Генадзь Бураўкін, Мікалай Статкевіч і Ніна Шыдлоўская. У першай сустрэчы возьмуць удзел знакамітыя паэты Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, маладыя пісьменнікі і выканаўцы аўтарскай песні, мастацкі калектыў.

Запрашаем!

**Л.АРАСТОВІЧ**

## «Мы разам сёмы год»

**У пятніцу ўвечары «Наша Ніва» запрашае сваіх чытачоў на сустрэчу з нагоды 7-й гадавіны выхаду ў свет першага нумара адноўленай газеты.**

Спатканне прыхільнікаў «Нашай Нівы» з рэдакцыяй, сталымі аўтарамі і заўсёднікамі газеты адбудзецца ў мінскім Доме літаратара, а пачнецца імпрэза ў 18:30.

Будзе дэманстравацца дакументальная стужка «Віленскі зборнік». Будуць пяяць Кася Камоцкая і Зміцер Бартосік, напісанае пачытаюць Славамір Адамовіч, Уладзімір Арлоў, Адам Глобус і інш. Будзе прэзентаваная мастацкая група *TERRART*.

Чакаем!

**С.К.**

## Жаночых імёнаў – толькі чатыры

**У Гомелі больш за тысячу вуліц, але толькі чатыры з іх названыя ў гонар жанчын.**

Амаль палова гомельскіх вуліц носіць імёны дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, герояў-воінаў, пісьменнікаў, паэтаў, дзеячаў мастацтваў і навукі. Рэшта маюць гістарычныя, геаграфічныя або іншыя найменні — кшталту Рэчыцкая шаша або вул.Савецкая. «Сваю» вуліцу ў Гомелі маюць чатыры жанчыны — «вялікі савецкі педагог» Надзея Крупская, савецкая партызанка Зоя Касмадзям'янская, балгарская антыфашыстка Ліля Карастаянава і Галіна Дакутовіч. З іх непасрэднае дачыненне да Гомеля мае толькі малодшы лейтэнант авіяцыі Г.Дакутовіч, якая нарадзілася ў горадзе на Сажы, загінула падчас Другой сусветнай вайны.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Вагон з павышаным камфортам

**Некаторым пасажырам, якія выберуцца з Гомеля ў Мінск, пашанцуе: ім прададуць квіткі ў незвычайны вагон.**

Гэты новы вагон днямі сышоў з канвеера Гомельскага вагонарамонтнага завода. На прадпрыемстве кажуць, што аналага навінцы няма ні ў адной краіне СНД, а ехаць у ім будзе адно задавальненне. Там ёсць і кандыцыянер, і буфет, прадугледжанае нават месца для відэаапаратуры (яе на гомельскім вагонарамонтным пакуль не вырабляюць). А сядзець пасажыры будуць у надта зручных крэслах — як у самалёце. У чэрвені новы вагон прычэпяць у цягнік «Гомель—Мінск».

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Адны будуюць – другія скардзяцца

**Гомельскі гарвыканкам прыняў пастанову, якая забараняе будаўніцтва склепаў і кладовак пад балконамі і лоджыямі першых паверхаў дамоў.**

Такія саматужныя збудаванні сталі вельмі папулярнымі. Жыхары многіх дамоў стварылі сабе пад балконамі першых паверхаў сховішчы для бульбы, агародніны і іншых рэчаў. Ніякай шкоды ад гэтага няма, а гаспадары цесных «хрушчовак» такім чынам атрымлівалі невялікую дадатковую прастору. Аднак чым больш будавалі жыхары першых паверхаў, тым больш скаргаў атрымлівалі і выканкамы ад зайздрослівых суседзяў. І чыноўнікі вырашылі пакласці канец праблеме старым выпрабаваным спосабам — «забараніць!»

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Плачуць сосны жывіцаю

**У Гомельскім і Рэчыцкім лясгасах пачаўся сезон нарыхтоўкі жывіцы.**

На лясных дзялянках плошчай 800 га вахтавым метадам працуюць 70 лесахімікаў, якія за сезон павінны сабраць ажно 350 тон жывіцы — свежай сасновай смалы. Ужо нарыхтаваныя першыя 60 тон адпраўлены на пераапрацоўку. Сасновая жывіца з'яўляецца сыравінай для вытворчасці каніфолі, шкіпінару, лакафарбавай і іншай прадукцыі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Нічога не з'еў, усё папсаваў

**Дзіўны інцыдэнт здарыўся ў сярэдняй школе № 10 горада Жлобіна.**

Выбіўшы шыбу, невядомы зламыснік залез у школьную сталоўку, размарозіў халадзільнік, раскідаў па падлозе і абсыпаў соллю прадукты, паразбіваў слоікі. Папсаваўшы такім чынам усё, што толькі можна было, знік, прыхапіўшы з собою калькулятар.

**У.В.**

**СВЕТ БЕЗ МЕЖАЎ**

## Штучная кроў

**Сінтэтычная чалавечая кроў неўзабаве з'явіцца на амерыканскім медычным рынку.**

Некалькі буйных фармацэўтычных карпарацый у Злучаных Штатах Амерыкі закончылі трохгадовы праект па распрацоўцы штучнай чалавечай крыві і цяпер прыступілі да клінічных выпрабаванняў. Наступным крокам стане заяўка ў Нацыянальнае агенцтва лекавых сродкаў на рэгістрацыю гэтага незвычайнага прадукта. Праведзеныя даследаванні паказалі, што і медыкі, і пацыенты ў Злучаных Штатах станоўча ставяцца да самой ідэі. *«Сёння СНІД стаў сапраўднай эпідэміяй, і ніхто не ведае, калі з'явіцца якая-небудзь яшчэ падобная хвароба. Пацыенты, якім будуць пераліваць штучную кроў, могуць быць упэўненыя, што ім не занясуць якую-небудзь інфекцыю»,* — гаворыць В.Фрэйтаг, дырэктар фармацэўтычнай фірмы *Somatoga*.

Сінтэтычная кроў поўнасцю выконвае такія функцыі, як дастаўка кіслароду да тканак і органаў, транспарт вуглекіслаты і прадуктаў абмену для вывядзення з арганізма, падтрыманне іоннага балансу і інш. І ўсё ж нават самы лепшы штучны варыянт не зможа замяніць сапраўднай жывой крыві. Аднак сінтэтычны аналаг дапаможа выратаваць жыццё людзей у выпадку вялікіх страт крыві (напрыклад, пры раненнях) — пакуль арганізм не збярэцца з сіламі і не пачне прадукаваць паўнацэнную кроў.

## Самалёт стартуе з аўтамабіля

**Французскі самалёт *Cri-Cri* — самая маленькая ў свеце крылатая машына, на якой можа лятаць чалавек.**

Фюзеляж гэтага самалёта мае даўжыню ўсяго 4 м, палёт забяспечваюць два бензінавыя рухавікі. Аднак магутнасці іх не хапае, каб машына ўзнялася ў паветра. Таму ўзлятае *Cri-Cri*... з даху легкавога аўтамабіля, на якім устанаўліваецца адпаведнае мацаванне. Калі аўто набірае хуткасць 110 км у гадзіну, блакіроўка здымаецца — і самалёт пачынае самастойна рухацца ў паветры.

*У самалёта Cri-Cri ёсць і яшчэ адна тэхнічная ўмова: пілот не павінен важыць больш за 72 кілаграмы.*





## Дзяцей трэба шкадаваць і песціць?

**Добрыя, выгодныя ўмовы жыцця ў дзяцінстве спрыяюць разумоваму развіццю і забяспечваюць вышэйшы інтэлектуальны патэнцыял у сталым узросце.**

Да такой высновы прыйшлі брытанскія біёлагі, якія на працягу некалькіх гадоў праводзілі серыйныя доследы на пацуках. Адна група грызуноў ад самага нараджэння ўтрымлівалася ў звычайных лабараторных клетках і атрымлівала звычайны пацучыны корм. Другую змясцілі ў люксусовы тэрарыум з дзённым асвятленнем, кандыцыяваным паветрам, басейнам і жывымі раслінамі. Акрамя таго, яны дасхочу маглі есці сыр, арэхі, пражаную кукурузу і нават шакалад.

Ужо праз два месяцы распешчаныя пацучкі нашмат апярэджвалі сваіх равеснікаў з драцяных клетак. Яны значна лепш паказалі сябе ў тэстах: лёгка давалі сабе рады ў лабірынце, хутка і беспамылкова пазнавалі прадметы па колеры і форме. Акрамя таго, вынікі анатамічнага даследавання паказалі, што ў пестуноў былі лепш развітыя мазгі.

## Міны супраць злодзеяў

**Міны з фарбай — адзін з самых новых сродкаў барацьбы са злодзеямі.**




*«Асцярожна: міны!» — напісана на плакаце. Але чэрап і косці намаляваныя толькі дзеля рэкламы*

Гэтыя ахоўныя сродкі нядаўна з'явіліся на еўрапейскім рынку і адразу набылі шырокую папулярнасць. Калі наступіць на міну — з яе б'е струмень каляровай эмульсіі, якую практычна немагчыма змыць ні з адзення, ні са скуры. Міны звычайна ўстанаўліваюць пры ўваходзе на тэрыторыю, маскіруючы лісцем, травой і г.д. У патаемным месцы гаспадар устанаўлівае электрычны пульт, на якім уключае прыстасаванне, адыходзячы з дому, або выключае — вяртаючыся.

Такія міны каштуюць нямала — больш за 100 долараў, а выпускаць іх пачала брытанская фірма *Peak Security*. Сёння яна прапануе новыя мадыфікацыі — з неймаверна смярдзючым (але бясшкодным для здароўя) газам, а таксама міны, што выдаюць аглушальны гук.

## Робат, які чуе, бачыць і ўмее чытаць

**Японскі канцэр *Toshiba* працуе над стварэннем робата новага пакалення, які зможа выконваць даволі складаныя каманды.**

Новая разумная машына будзе ўвасабляць найноўшыя дасягненні ў розных галінах тэхнікі. Робат разумее галасавыя каманды (кшталту «павярніся направа», «падымі мяч»), можа выбіраць прадметы патрэбнага колеру і формы сярод шэрагу разнастайных рэчаў. Вачыма робату служаць дзве відэакамеры, якія забяспечваюць трохмерны зрок. З іх дапамогай машына можа пазнаваць, успрымаць і выконваць заданні, напісаныя па-англійску і па-японску.

Спецыялісты лічаць, што ўжо праз 15-20 гадоў з'явяцца робаты, якія змогуць прымаць самастойныя рашэнні. Плануецца, што яны знойдуць шырокае прымяненне ў шпіталях пры доглядзе за хворымі, а таксама пры назіранні за складанымі тэхналагічнымі працэсамі.

*Інжынер-электронік Ёка Сушымі гуляе з робатам у мяч.*



*Паводле матэрыялаў замежнай прэсы падрыхтавала*
**Магдалена НЕПАКАЙ**







© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 36.610
Нумар падпісаны ў друк 27.05.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 308